# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 1 (1756) ГОД XXXV БЕЛАСТОК 7 СТУДЗЕНЯ 1990 г. ЦАНА 250 зл.

## КАЛЯДА

Урачысты Сваты вечар
Распачаўся пахам з печы.
У кутку пад абразамі,
Што прыбраны ручнікамі,
Жменя сонечных калоссяў,
Каб багата нам жылося.
Традыцыйна ў беларусаў
Водар сена пад абрусам.
Села ўжо сям'я на лавы.
Посныя дымяцца стравы.
Смачны боршч з баравікамі,
Што сабралі ў лесе самі,
Вараныя ў печы грушы,
Што раней іх маці сушыць,
Куцця з панцаку ў каструлі,
Сподак смажанай цыбулі.
На стале стаяць грыбочкі,
Агурочкі проста з бочкі,
Міска квашанай капусты,
Адно блюда з рыбай тлустай,
Селядцоў ляжыць чатыры,
Да іх бульбіны ў мундзірах,
Горба блінчыкаў духмяных
І кісель з мукі аўсянай.
Да ўсіх страваў банька рэжа
Аржаны хлябочак свежы.
За сталом пад'еўшы лоўка,
Адпраўляецца ў царкоўку
Беларускі люд вясковы
Стрэнуць
Раджджаство Хрыстова.

Віктар Швед



ЗІМА ІДЗЕ ПРАЗ ПАРК. Фота Яна Максімюка

Заклік да ліквідацыі „белых плямаў“ у нас бесперапынна выкарыстоўваецца да нападак на палітычныя, культурныя і гаспадарчыя памылкі ўсёй усходняй славяншчыны. Было іх празмерна многа. Але я не ўяўляю сабе будучыні добрасуседскіх суадносін і шчырага супрацоўніцтва, калі мы дзесяцігоддзямі будзем кшталтаваць такі тэндэнцыйны напрамак выхавання.

Прапаную заняцца ўласнымі „белымі плямамі“, напрыклад, падпольным беларускім рухам 1921—1923 гадоў на тэрыторыі Заходняй Беларусі. Дакументы павінны быць у польскіх архівах, ніхто іх аднак не кранае, відаць, некарысныя. Можна пачаць ад мала вядомых фактаў, што існаваў гэты рух ва ўсходніх паветах Беласточчыны, што кіраваў ім наш зямляк Скамарох (Герман Шыманюк) з Грабаўца каля Орлі, а ў Беластоцкім павеце — Вера Матэйчык.

Кім была Вера?

Нарадзілася яна ў 1896 годзе ў Супраслі, але дзяцінства правяла ў Агароднічках, у якіх бацькі мелі маленькую гаспадарку, а бацька быў яшчэ печніком. Пасля заканчэння двухкласнай школы ў Супраслі, пайшла яна працаваць у мясцовую тэкстыльную фабрыку Цытрона, але захацела паглядзець забастоўку рабочых і за гэта была выгнана з працы. На шчасце, супрасльская настаўніца дапамагла ёй паступіць у Свіслацкую настаўніцкую гімназію, якую яна закончыла экстэрнам і, на прапанову сям'і таго ж фабрыканта, трапіла ў пакаёўкі, а потым была настаўніцай іх дзяцей і перакладчыцай (добра валодала нямецкай, рускай, беларускай і польскай мовамі).




У 1914 годзе адступаючыя царскія войскі разбурылі фабрыку. Вера зноў засталася без працы. У 1917 годзе нехта параіў ёй уступіць на чатырохмесячныя настаўніцкія курсы ў Свіслачы. Апрача навукі захапілася культурнай дзейнасцю — арганізавала вечарыны, дэкламавала і сама пісала вершы. Асабліва цёпла ўспамінала настаўніка Б. Пачобку. Яму пакінула свой першы сшытак вершаў. Можа, яны апублікаваны пад псеўданімам „Мурашка“? Захаваўся толькі адзін „Ідзі“, які публікуем.

Працаваць накіравалі яе ў Грабавец каля Орлі, дзе настаўнічала да канца 1919 года. У школе было каля 50 вучняў у трох класах. З першага класа навучалася беларуская і нямецкая мовы. На беларускай мове вяліся таксама заняткі па геаграфіі (па А. Смолічу), гісторыі свету і Беларусі. Астатнія прадметы — на такой мове, якую ведаў настаўнік. Падручнікі атрымлівалі з Вільні, некалькі іх яна захавала: „Apawiadanni i lehendy wieršam roznych autarau“, Wilnia, 1914, „Hramatyka biełaruskaj mowy“ (apr. B. Pačobka), Wilnia, 1917 і іншыя. Дзеці на заняткі прыходзілі ў вышыванай нацыянальнай вопратцы. Арганізаванне школ з беларускай мовай навучання на захопленай нямецкімі войскамі цэнтральнай Беларусі і недахоп настаўнікаў сталіся прычынай пераезду Веры ў Мінск. Спачатку накіравалі яе ў вясковую школу ў Карме (?), дзе працавала ўсяго паўгода. Адтуль была зноў пераведзена ў Мінск на функцыю школьнага інспектара. У 1920 годзе выйшла замуж за капітана Войска Польскага Маслоўскага. Але ў ліпеньскім наступленні Чырвонай Арміі капітан быў забіты, а Вера да канца года заставалася пры савецкай уладзе ў Мінску, пакуль ка-

(Працяг на стар. 6)

...Здароў будзь, браце!
Няхай дае Бог лад у хаце,
Дабра, прыбытку прыспарае,
Каб у хляве ды ўсё пладзілась,
Каб жыта ў полі каласілась,
Няхай раяцца добра пчолы,
І самі будзем мы вясёлы,
За год дай Божа дачакаць
Здаровым новы год спаткаць.

ЯКУБ КОЛАС
(„Новая зямля“)



# ДА РОДНЫХ

## БРАТЫ І СЁСТРЫ, БЕЛАРУСЫ!

Як заўсёды нечакана прамільгнуў стары год і з надзеяй ды з трывогай глядзім у твар новаму 1990 году. У нашай краіне змянілася амаль усё. Польшча, да якой мы прызвычаіліся, практычна перастала існаваць. Узнікае на нашых вачах новы дзяржаўны арганізм, у значнай ступені падобны да таго, які існаваў у 1918—1939 гадах.

Кожны з нас бачыць і адчувае, як моцна ўсё ў нашай краіне змяняецца. У які бок змяняецца? У лепшы, ці ў горшы, — кожны павінен адказваць індывідуальна. Напэўна, ствараюцца ўмовы да хуткага ўзбагачэння найбольш актыўных і дынамічных асоб. А як будзе з тымі неактыўнымі і маладынамічнымі? Што станецца з бясплатным школьніцтвам, бясплатнай медыцынскай апекай, з шырокімі апякунчымі дзеяннямі для пенсіянераў, старых, пакалечаных, людзей з парушанай псіхікай? Я не хачу гуляць у прароцтвы і мушу прызнацца, што нічога не ведаю.

Нельга не сказаць яшчэ аб чымсьці важным. Увесь ход падзей у Польшчы сведчыць аб тым, што будзе ў краіне большая, чым дагэтуль, палітычная свабода. У сувязі з гэтым ужо сёння, як грыбы пасля дажджу, узнікаюць партыі і аб'яднанні. Усе яны маюць тыпова польскі характар. Болей таго, існуе свайго роду спаборніцтва. Кожная з іх падкрэслівае, што ў яе характары, праграме і дзейнасці многа польскасці.

Дык як жа мы, беларусы, павінны паступаць у такой сітуацыі? Звязаць свой лёс з гэтымі партыямі і ўтапіцца ў польскім моры? Згубіць да канца сваю нацыянальную тоеснасць, свой нацыянальны твар? Патаптаць нагамі ўсё тое, што тысячу гадоў свята абаранялі, захоўвалі і развівалі нашы продкі? Прычыніцца да таго, каб з усходняй Беласточчыны знікла беларуская мова, беларускі фальклор, беларускія абрады, каб парушылася пазіцыя адвечнай рэлігіі большасці беларусаў — праваслаўя? Мне здаецца, што пайсці па гэтаму шляху, дык дакаціцца да поўнага ганебнага здрадніцтва ў адносінах да гісторыі і будучыні.

Захаваць і замацаваць усё тое, што стварылі нашы папярэднікі, — вось наша задача і наш абавязак перад сваёй нацыяй, перад чалавецтвам і перад сваім сумленнем.

І таму, дарагія Браты і Сёстры, не адварочвайцеся плячыма да саміх сябе. Мы ўжо многае згубілі. І вось цяпер трэба шукаць згубленае.

Зразумела, што захоўваць сваю мову, сваю культуру, кожны з нас павінен індывідуальна ў малітве і праклёне, у радасці і смутку, у сямейным жыцці і на вуліцы. Аднак, не заўсёды мы дамо сабе рады з гэтай праблемай, калі будзем дзейнічаць без дапамогі другіх. І таму трэба нам з'яўляцца ў беларускіх арганізацыях, у беларускіх партыях, у беларускіх суполках і аб'яднаннях. Патрэбны і шырэйшы саюз. Трэба шукаць кантактаў і супрацоўніцтва з усімі беларусамі ў свеце, незалежна ад таго, куды іх кінуў лёс: і з Савецкай Беларусі, і з Амерыкі, і з Англіі, і з Канады, і з Аўстраліі. Гэта ж нашы браты і сёстры! І калі яны абараняюць беларускую нацыянальную субстанцыю, дык яны з'яўляюцца намі, а мы — імі. Ужо ўзнікаюць у Польшчы беларускія партыі. Знаёмцеся з іхнімі праграмамі, знаёмцеся з людзьмі, якія ініцыююць іх, выбірайце тыя, якія вам найбольш адпавядаюць, і ўступайце ў іх рады.

Кіруйцеся вольнай воляй, сваім розумам і сваім сэрцам, ідзіце туды, куды яны вас клічуць.

Як старшыня Беларускага грамадска-культурнага таварыства, хачу заявіць, што застанецца яно беспартыйнай беларускай нацыянальнай культурнай арганізацыяй. Залежыць нам на замацаванню ўсяго таго добрага, чаго мы дасягнулі. Аднак мы не можам стаяць на месцы. Трэба ісці наперад. А ісці наперад можна толькі тады, калі будзе нас усё болей, калі ўсё больш масава будзем удзельнічаць у аматарскім руху, калі ўсе будзем пасылаць сваіх дзяцей на навучанне беларускай мовы, калі будзем чытаць „Ніву“, „Беларускія календары“ і творы членаў літаратурнага аб'яднання „Белавежа“, калі будзем прычыняцца да ўзбагачэння фонду пабудовы Беларускага музея.

А ці ж не час, каб больш настойліва ўзнімаць ідэю большай адміністрацыйнай і культурнай самастойнасці для ўсходняй Беласточчыны, дзе жывуць у большасці беларусы?

Дарагія Сёстры і Браты! Вялікі свет прыгожы таму, што складаецца з моўных, культурных, нацыянальных і этнічных разнароднасцяў. Адна з гэтых прыгожых разнароднасцяў у свеце — беларусы. Гаворачы інакш, гэта кожны з нас. Калі ж хочам, каб свет не адвярнуўся да нас плячыма, каб не махнуў на нас пагардліва рукой, нам трэба знайсці ў сабе ўнутраную сілу, якая павядзе нас да адраджэння. Бо толькі гэтае нацыянальнае адраджэнне можа дазволіць нам заняць пачэснае месца сярод вольных народаў. Мусім паверыць, што мы не лепшыя, але і не горшыя, чымсьці іншыя народы, і што можам развівацца без тых апек з боку чужынцаў, якія называліся братэрствам, а былі паспалітым зняволеннем.

**Аляксандр Баршчэўскі**
старшыня ГП БГКТ




## „АДКРЫТАЯ СТУДЫЯ“

Яшчэ не апусціліся ў крэслы як след прадстаўнікі паасобных нацыянальных меншасцяў, як паляцелі ў іх адрас рознага роду закіды замест слоў пагаднення. Думаю, што сваркі ў даны момант найменш нам патрэбныя.

На жаль, эмоцыі з боку нацыянальнай большасці сапсавалі настрой прысутных. Іншыя захавалі высокі культурны ўзровень, у тым ліку і беларусы, якія былі актыўнейшай дэлегацыяй. Прозвішча „Яновіч“ паўтаралася на вуснах дыскутантаў.

Гэта быў сапраўдны ўрок, пасля якога мы можам акрэсліць, хто нам прыяцель, а хто вораг. А прыяцеляў у нас не так і мала. Нельга нам адыходзіць у ізаляцыю. Згубіць давер вельмі проста.

**В. Семянюк**

## ЗМАРНАВАЛІ ШАНЦ

З вялікім хваляваннем і з прыкрасцю аглядаў я прадстаўнікоў нацыянальных меншасцяў у тэлевізійнай перадачы „Адкрытая студыя“. Пішу „змарнавалі шанц“ таму, што з вуснаў нашых прадстаўнікоў не загучала на ўсю Польшчу праўда аб тэрорах, які перанёс беларускі народ на Беласточчыне ад бандаў у пасляваенны перыяд. Мне вельмі прыкра, і думаю, што маім равеснікам, якія памятаюць даваенную Польшчу таксама, калі асобы, разважаючыя аб II сусветнай вайне, памятаюць аб „савецкім нажы, убітым у спіну Польшчы ў 1939 годзе“, а нічога не ведаюць аб Залешанах, Занях, Вульцы-Выганоўскай і іншых беларускіх вёсках, якія банды спалілі і выстралялі толькі за тое, што яны беларускія. Была выдатная магчымасць аб гэтым сказаць, калі адзін шавініст крыкнуў у адрас беларусаў: „Вы ставілі трыумфальныя вароты Савецкай Арміі!“ Яновіч адказаў яму: „Вы пад Ломжай таксама ставілі“. А калі б ведаў трагедыю свайго народа ў пасляваенны перыяд, то мог бы сказаць так: „Нашы беларускія вёскі на Беласточчыне таксама сардэчна віталі польскае войска, давалі ім кватэры, вясковую каўбасу і самагонку. А пад вечар або на другі дзень тыя ж паны-афіцэры і салдафоны так званага Войска рабавалі рэшткі дабра, насельніцтва замыкалі ў пуні, падпальвалі і пакідалі запіску: „Смерць врогом ойчызны“.

Якім ворагам айчыны мог быць беларус, які карміў, паіў польскага салдата ў сябе ў хаце? — павінен быў запытаць Сакрат Яновіч у палякаў, глядзеўшых тэлеперадачу.

Я сем разоў прабаваў дазваніцца ў „Студыю“, але тэлефон заўсёды быў заняты. А палове трэцяй уначы прабаваў пайсці спаць, але дзе ж там заснеш пасля такой порцыі бандытызму, якую дала на пачатку баба, якая назвала сябе лекарам і акоўскім ветэранам. Яна мо і дурная, але, на жаль, такія людзі фармуюць польскі погляд на нацыянальныя меншасці. Польскі народ „ведае“, што нас, выганцаў, корміць, апранае, адукуе і ставіць нам дарма кватэры. Адным словам, гадуе трутняў. Ёй толькі трэба было падкінуць кулямёт — і тэлеперадача была б закончана ў першым раўндзе.

Глядзеў я на нашых прадстаўнікоў і бачыў нашу супольную долю. Мы або баімся, або не ведаем, што і калі сказаць іншым. Нашая спецыяльнасць — унутраная грызня. Тут то мы майстры!

**Васіль Петручук**

## ЗБОР НАЦМЕНАЎ

*Збор у „Студыі адкрытай“*
*Свету напаказ нацменаў*
*Выклікаў несамавіты*
*Шок нервовы з белай пенай.*

*І шматлікія палякі*
*Спуджаны, што нас так многа,*
*Беспардонныя атакі*
*Прымянілі на падмогу.*

*Быццам, мы тут толькі госці,*
*І замест сядзець каб ціха,*
*Дамагаемся чагосьці,*
*Для сябе шукаем ліха.*

*А мы ж тут ужо спрадвеку*
*На сваёй жывем зямліцы*
*І жадаем чалавекам*
*Роўным з роўнымі лічыцца.*

*Як жа нам тады, скажыцё,*
*Быць у еўрапейскім доме,*
*Як не можам тут мірыцца,*
*Жыць сумесна па-другому?*

*8—9 XII 1989 г.*

**Віктар Швед**

## ПОГЛЯДЫ

### ПРАФЕСІЯ — БЕЛАРУС

**З нагоды святкавання 63 гадавіны трагічнага з'езда „Грамады“ мне давялося пабываць у Старым Беразове, а пасля затрымацца ў Гайнаўцы. Разам з журналістам каталіцкага месячніка „Więź“ Маркам Зюлкоўскім пайшоў я ў эпіцэнтр вулкана, які дыміў над Гайнаўкай — у Дом культуры „Гурнік“. Там мы сустрэліся з працаўнікамі, якія бастуюць супраць дырэктара Мікалая Бушко. Я асабліва хацеў пазнаёміцца з Віктарам Кабацам, пра якога „Gazeta Wyborcza“ (№ 147) пісала, што з'яўляецца ён сярод бастуючых свядомым беларусам.**

**Размова з удзельнікамі забастоўкі была даволі спакойнай, прыемнай і амаль не давяла мяне да пераканання, што ўсяму вінаваты М. Бушко. Трэба прызнаць, што акцыя супраць дырэктара вялася вельмі прадумана і інтэлігентна. Пані Эва Коркус, якая, як мне здавалася, была душой акцыі, — гэта вельмі мілая дама і гаварыла даволі пераканаўча.**

**З размовы выглядала, што бастуючыя, члены „Салідарнасці“, з'яўляюцца сапраўднымі інтэрнацыяналістамі, а нават абаронцамі беларускай культуры.**

**Мяне аднак найбольш цікавіў „беларус“ — Віктар Кабац, з якім я гутарыў амаль дзве гадзіны. Ён вельмі шчыра выказваў свае думкі, паказаў сябе шчырым дэмакратам і лібералам, як, зрэшты, усё зэтэмпоўскае пакаленне. Пра беларусаў гаварыў у трэцяй асобе „oni Białorusini“ Калі зайшло да размовы, ці гэта персанальны ці міжнацыянальны канфлікт, Віктар Кабац сказаў: „Ja też jestem Białorusinem“. І тады я зразумеў, у чым справа з тымі беларусамі, пра якіх пісаў Ян Квасоўскі. Ёсць проста беларусы як нацыя і як сацыялагічная з'ява. На маю думку, гэтай катэгорыі не трэба трактаваць як новай нацыі, а проста як прафесію, ці нават штат у нейкай установе.**

(Працяг на стар. 5)

ЗОРКА
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



Якуб Колас

# КАЛЯДЫ

(УРЫВАК З ПАЭМЫ „НОВАЯ ЗЯМЛЯ")

Куцця. Марозна. Хмурнавата.
Снякок падкідвае заўзята;
Снег на куццю — грыбы на лета,
Такая матчына прымета,
А сцежкі чорны — ягад многа;
Ну, і за гэта хвала Богу.
. . . . . . . . . . .
Якія ж матчыны намеры
Наконт куцці, наконт вячэры?
Ох, гэта дзецям знаць цікава,
Калі якая будзе страва,
Ў якім ліку, ў якім парадку?
Што на канцы і што ўпачатку?
А ў маткі ўсё абмеркавана
І ўсё прадумана ад рана.
. . . . . . . . . . .
У хаце добры лад і згода,
Як патрабуе і прыгода,
Паважнасць вечара святога —
Не ўчуеш слова ты благога.
І ўсе прыбраліся і памыліс,
Міхась з Антосем падгалілісь
І парасчэсвалі чупрыны.
— Ну, засцілайце стол, мужчыны! —
І стол той гуртам прыбіраюць,
Настольнік белы падымаюць,
На стол растрэсваюць мурог —
На сене колісь быў сын-бог —
І роўным пластам рассцілаюць,
Сянцо абрусам закрываюць.
За стол садзяцца ўсе ў парадку
І прад сабой кладуць аладку,
Відэльцы, лыжкі разбіраюць
І стравы першае чакаюць.

— Ты, брат, глядзі не ашукайся:
Не надта зразу накідайся,
Бо потым шчыра пашкадуеш,
Калі жывот свой напіцуеш:
Чым дальш — смачнейшыя патравы,
І многа іх, і ўсе цікавы;
Я знаю хітрасць гэту ўсю, —
Алесь гаворыць Кастусю.
. . . . . . . . . . .
І вось вячэра зачалася!
Спыніцца мушу я на квасе:
Ён колер меў чырванаваты;



Тут быў таран, мянёк пузаты,
Шчупак, лінок, акунь, карась,
Кялбок і ялец, плотка, язь,
Яшчэ засушаныя з лета.
Але не ўсё яшчэ і гэта:
Аздоблен квас быў і грыбамі,
Выключна ўсё баравічкамі;
Цыбуля, перчык, ліст бабковы —
Ну, не ўясісь, каб я здаровы!
Пільнуй — пішком скажу між намі —
Каб і язык не ўцёк часамі.

За квасам елі верашчаку,
А потым блінчыкі на маку,
А там ламанцы, праснакі
З пшанічнай добрае мукі;
А макаў сок такі салодкі!
Ламанцы ў ім, ну як калодкі —
Так добра макам праняліся,
У рот паложыш — абліжыся.
За праснакамі йшлі кампоты,
Кісель з мядоваю сытою;
Вячэру скончылі куццёю,
Але ўжо елі без ахвоты,
Абы падатак той аддаць,
Стары звычай ушанаваць,
І после гэтакай вячэры
Жывот выпучваўся без меры,
А з-за стала як уставалі,
То нават трохі і стагналі.

На першы дзень святых калядак —
Такі ўжо быў стары парадак,
Збіралі сена са стала,
Кармілі ім каня, вала
І ўсіх жывёлін, хоць па жмені,
А на стале, ў драбнюткім сене —
Здавён-даўно вялося й гэта —
Уважна зернятак шукалі
І па тых зернятках гадалі,
Які зародзіць хлеб налета?



# СЁСТРЫ

Жылі-былі на свеце тры сястры. Зірніце на цыферблат гадзінніка і вы здагадаецеся, пра каго пойдзе гаворка. Ну, вядома ж, вы здагадаліся! Я хачу расказаць аб гадзіннікавых стрэлках. Гэта дзякуючы ім можам даведацца, калі абедаць ці класціся спаць, уставаць у школу ці ісці ў кіно.

Малодшую сястру звалі **Секундная стрэлка**. Яна была самая непаседлівая: кожную мінуту ёй трэба было прабягаць па цыферблаце цэлы круг. У той час яе сярэдняя сястра — **Мінутная стрэлка** — прасоўвалася толькі на адно дзяленне, а старэйшая — **Гадзінная** — і зусім стаяла на месцы. Секундная стрэлка заўсёды спяшалася і ніколі не спынялася, каб адпачыць і пагаманіць з сёстрамі. Ад клопатаў зусім схуднела і была самай тонкай з сясцёр. А колькі дакораў выслухоўвала яна за свой няўрымслівы характар! Гэта было, вядома, несправядліва, але Секундная стрэлка зусім не мела часу для таго, каб крыўдаваць.

Больш за ўсіх бурчала Гадзінная стрэлка.

— Куды ты спяшаешся? — дзівілася яна пры сустрэчы з сястрою. — Ці ж можна жыць у такой мітусні? Увесь час бегчы некуды на злом галавы! Паглядзі на мяне. Я ніколі не спяшаюся і выглядаю хораша. Не тое, што ты. Зусім змарнела!

— Не выдумляй глупстваў! — адказвала ёй Секундная стрэлка і бегла далей, бо сустракаліся яны ўсяго на некалькі імгненняў. — Я проста не ўяўляю, як можна стаяць на адным месцы! — дзівілася яна, з'яўляючыся зноў. Сёстрам ніколі не ўдавалася пагаманіць спакойна, бо Секундная стрэлка заўсёды бегла.

А вось калі Гадзінная стрэлка сустракалася з Мінутнай, тады яна ўжо адводзіла душу.

— І чаму гэта нам ніяк не заменяць шкло?! — бурчала яна. — Ты бачыла, якая шчыліна каля лічбы пяць? Тут заўсёды дужа дзьме! Я зайздрошчу гэтай непаседзе — Секунднай стрэлцы! А мне трэба ацірацца каля пяцёркі цэлую гадзіну!

— Проста жах, што Гаспадар такі няўважлівы да нас! — згаджалася Мінутная стрэлка. — На гэтым месцы я менш за цябе мерзну, затое мацней іржавею. А мы ж так патрэбны людзям!

— Праўда, сястрыца, — казала Гадзінная стрэлка. — У свеце была б поўная неразбярыха, калі б мы спыніліся.

У гэты момант паўз іх прабягала Секундная стрэлка.

— Як табе падабаецца гэта непаседа? — шаптала Гадзінная стрэлка. — Хіба можна быць такой ветранай? Праўду кажучы, яна мне вельмі надакучыла. Не паспею я задрамаць на хвілінку, як яна зноў з'яўляецца! Можа, ты ўгаворыш яе рухацца больш марудна? Бо мяне яна зусім не слухаецца.

Але і ўгаворы сярэдняй сястры не памаглі: Секундная стрэлка і слухаць не хацела пра тое, каб спыніцца. І ўжо зусім кепска было, калі сёстры дапякалі ёй разам. У такіх выпадках Секундная стрэлка спяшалася прабягаць паўз іх як мага хутчэй, і тады гадзіннік спяшаўся. Гаспадар адводзіў стрэлкі назад, а сёстры ва ўсім вінавацілі сваю малодшую сястру.

Так працягвалася доўга. Папрокі сясцёр перарасталі ў сваркі. І аднойчы Секундная стрэлка задумалася:

„На самай справе, у мяне не застаецца ні секунды вольнага часу. Так і жыццё прабяжыць незаўважна. І з сёстрамі кожны раз сварыцца непрыстойна. Відаць, трэба адпачыць".

(Працяг на стар. 10)

Васіль Зуёнак

# З НОВЫМІ ПЯЦЁРКАМІ!

Студзень тупае ў двары,
Снежань знік у вырай.
Дзякуй,
добры год стары,
За работу шчырую:
За багаты каравай,
За будоўлі звонкія
І за песні —
з краю ў край
Над усёй старонкаю!
Са Снягуркай Дзед Мароз
Школы ўсе аб'ехалі,
Раздарылі цэлы воз
Забавак з пацехамі,
Пажадалі дружбы ўсім
І прасілі потым,
Каб ніхто з нас не насіў
Цяжкі мех з лянотай...
У палях — снягоў ірдзень,
Неба ззяе зоркамі,
Новы год да нас ідзе
З новымі пяцёркамі!







Удзельніцы цэнтральнага дэкламатарскага конкурсу, які адбыўся ў Беластоку 9 снежня, Кацярынка Максімчук, Юліта Баршчэўская з Трасцянкі і Бася Астапчук з Ласінкі.

Фота Я. Чэрнякевіч.

(Працяг са стар. 9)

## СЁСТРЫ

І яна спынілася. У тое ж імгненне спынілася і Мінутная стрэлка.

— Што здарылася? — захвалявалася яна. — Чаму мы сталі? Няўжо Гаспадар забыўся гадзіннік завесці?

Яна памылялася. Гаспадар нядаўна завёў гадзіннік, і спружыны хапала на цэлыя суткі.

Праз нейкі момант голас падала Гадзінная стрэлка.

— Мне здаецца, я не рухаюся, — сказала яна. — Гэй, сястрыца, ты не ведаеш, што здарылася?

Увесь дзень сёстры высвятлялі прычыну таго, чаму спыніліся. Яны так захапіліся спрэчкай, што забыліся пра малодшую сястру, бо нават і падумаць не маглі, што ва ўсім была вінавата яна.

Але ўсё ішло сваёй чаргою. У свеце не наступіў хаос, як прадказвалі сёстры. Гаспадар падумаў, што гадзіннік сапсаваўся, і аднёс яго ў майстэрню. А там было шмат такіх гадзіннікаў.

Толькі цяпер сёстры ўспомнілі пра сваю малодшую сястру і зразумелі: без яе ім не зрушыць з месца. Пачалі яны ўпрошваць Секундную стрэлку, не скупіліся на ліслівасць і пахвалу. Яны называлі яе самай прыгожай у свеце стрэлкай і нават шкадавалі пра тое, што не могуць так хутка бегаць, як яна. Калі ж Секундная стрэлка не зрушыць з месца, гадзіннік заржавее, яго разбяруць на часткі.

Секунднай стрэлцы самой надакучыла стаяць на месцы. Яна радасна страпянулася, хуценька пабегла і гэтым прывяла ў рух гадзіннік.

Змітрок Якутовіч

## ВЯСЁЛЫ КУТОЧАК

Настаўніца задала ў класе тэму самастойнай працы: „Калі б я быў дырэктарам...“

Усе пачалі пісаць, а Міхаська сядзіць, склаўшы рукі.

— Ты чаму не пішаш, — пытаецца настаўніца.

— Чакаю сваёй сакратаркі, — адказвае вучань.

* ✻ *

— Колькі ты ўжо жывеш з мамай, — пытаецца Пеця ў бацькі.

— Ужо пятнаццаць гадоў.

— А колькі яшчэ будзеш?

* ✻ *

— Пакладзі малаток. Міхась, бо яшчэ пальцы паадбіваеш — сварыцца маці.

— Не, мамачка, не хвалюйся, мне нічога не будзе. Цвік трымае Пятрок.

* ✻ *

— Ці можна мне сёння футбольны матч па тэлевізары глядзець? — пытаецца ў таты Пеця.

— Але толькі паўгадзіны.

— Добра. Няхай гэта будзе другая паўгадзіна.

* ✻ *

— Дзядзьку, чаму вы ловіце толькі маленькіх рыбак? — пытаецца хлопчык у рыбака.

— Бо ў маёй жонкі маленькая патэльня, — адказвае сур'ёзна рыбак.

* ✻ *

— Я хацеў цвік у сценку ўбіць, але малатком стукнуў сабе па пальцы.

— Дык чаму ж ты ў абедзвюх руках малаток не трымаў?

## ПАЗНАЁМІМСЯ

* ✻ *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Волаха, 27, кв. 30. Таня Гаруновіч (5 клас).

* ✻ *

СССР, 279200, Молдавская ССР, г. Бельцы, ул. Николаева 9, кв. 35. Дёминой Оле.

* ✻ *

БССР, 220082, г. Мінск-82, вул. Жудро, 37, кв. 135. Дзяніс Чаглак, 4 клас.

* ✻ *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Каржа, 11, кв. 33. Віця Чэчын, 4 клас.

* ✻ *

БССР, 220036, т. Мінск-36, вул. Волаха, 3, к. 2, кв. 16. Аксана Еліна. 4 клас.

* ✻ *

БССР, 220025, г. Мінск-25, вул. Ясеніна, 6, к. 1, кв. 30. Наташа Смычкова. 5 клас.

## ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКІХ

Яўген Крупенька

### У МАГАЗІНЕ ЗАЙКА БЫЎ

У магазіне зайка быў
І падушку там купіў,
А прынёс дадому,
Дык лёг спаць, вядома.

На падушцы — галава,
А пасцелька — трава.

Ляжыць зайка пад кустом,
Куст — яго цудоўны дом,
Мяккая падушка,
Ды звісае вушка.

Што рабіць? Што рабіць?
Трэба новую купіць!

Зайка новую купляе,
Зноў няўдача спасцігае:
З новае падушкі
Зноў звісаюць вушкі.

Зай пакупцы сам не рады —
Хто у гэтым вінаваты?

Зай або падушкі?
Не, — доўгія вушкі!



## ПІШУЦЬ ШКОЛЬНІКІ

### ДАРАГАЯ „ЗОРКА“!

*2 лістапада 1989 года ў нашай школе адбылося вогнішча, арганізаванае гарцэрскай і зуховай дружынамі.*

*На пачатку вучні першага класа ўступілі ў зухі. Перад тым яны прайшлі праверку, ці могуць быць зухамі. Яны елі хлеб з перцам, пілі воцат, але пробу вытрымалі.*

*Потым урачыста запалілася вогнішча. Мы спявалі гарцэрскія і зуховыя песні, такія, як „Гарыць вогнішча ў лесе“ і іншыя. Мы пяклі каўбаскі, бульбу, гулялі ў мяч, у фанты.*

*Усім нам так спадабалася, што мы ўжо ведаем, што ў наступным годзе зробім падобнае вогнішча.*

Арэк Асіпюк і Пятрок Пракапюк, вучні чацвертага класа школы ў Навакорніне.

## А-Д-Г-А-Д-А-Н-К-А



Колькі дзяўчатак на гэтым малюнку?



Адрас рэдакцыі: 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1, „Зорка“

